# Наша Свабода

№62(149) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

15 ЧЭРВЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Знікненне Завадскага: каму трэба?

**Кроў на рыдлёўцы**

Два пракурорскія следчыя па справе Дзмітрыя Завадскага, сенсацыйнае інтэрв'ю якіх паступіла па электроннай пошце ў беларускія СМІ, такім жа чынам пачалі дасылаць фотаматэрыялы. Першым прыйшоў здымак следчых Дзмітрыя Петрушкевіча і Алега Случака падчас інтэрв'ю, а цяпер і фотакопіі некаторых матэрыялаў следства.

Копіі змяшчаючы, у прыватнасці, пастанову аб правядзенні комплекснай судова-крыміналістычнай экспертызы рыдлёўкі, знойдзенай у аўтамашыне галоўнай падазронай асобы – Валерыя Ігнатовіча. Пастанову падпісаў пракурор аддзела па наглядзе за следствам у органах пракуратуры, унутраных справаў, дазнаннем і ОРД малодшы саветнік юстыцыі В.Шабунька. Вось спіс пытанняў, якія ён задае экспертам:

«1. Имеется ли на предоставленной для исследования штыковой лопате, изъятой 15.08.2000 года из багажника автомобиля марки «Фольксваген-Гольф», гос. ном. 33-85 КА, наслоения почвы и если да, то пригодны ли они для дальнейшего идентификационного исследования?

2. Если на штыковой лопате имеется почва, пригодная для исследования, то к какому типу местности она принадлежит?

3. Имеется ли на предоставленной для исследования штыковой лопате биологический (генетический) материал и если да, то пригоден ли он для дальнейшего идентификационного исследования?

4. Если имеется и он пригоден для исследования, то принадлежит он человеку или животному?

5. Подтверждается ли или исключается принадлежность биологического (генетического) материала потерпевшему Завадскому Д.А.?»



ПОСТАНОВЛЕНИЕ

о назначении комплексной судебно-криминалистической экспертизы.

гор.Минск.

10 августа 2000 года.

Прокурор отдела по надзору за следствием в органах прокуратуры, внутренних дел, дознанием и ОРД Белорусской транспортной прокуратуры мл.советник юстиции В.Д.Шабунько, рассмотрев материалы уголовного дела № 19/17-2000, возбужденного 10.07.2000 года по признакам преступления, предусмотренного ст.101 УК Республики Беларусь /умышленное убийство/ по заявлению руководителя специальных информационных проектов телекомпании "ОРТ" Российской Федерации Шереметьева П.Г. об исчезновении телеоператора Белорусского бюро указанной телекомпании Завадского Д.А.,-

УСТАНОВИЛ:

7 июля 2000 года в 10 часов 10 минут телеоператор Белорусского бюро телекомпании ОРТ Завадский Д.А. на служебном автомобиле марки "Форман-Шкода", гос.ном.03-18 КЕ, выехал из дома в Национальный аэропорт "Минск-2" для встречи руководителя отдела телекомпании ОРТ Шереметьева П.Г., который в этот же день прибывал самолетом из аэропорта "Шереметьево-1" в аэропорт "Минск-2" рейсом Б-2 № 1963 в 11 часов 11 минут.

Однако Завадский Д.А. его не встречал, а автомашина марки "Форман-Шкода" была обнаружена у здания аэровокзала. Принятыми мерами установить местонахождения телеоператора Завадского Д.А. и обстоятельства его исчезновения не представилось возможным.

В ходе проведения следственно-оперативных мероприятий по указанному уголовному делу, 03.08.2000 года была задержана автомашина марки "Фольксваген-Гольф", гос.номер 33-85 КА, принадлежащая Игнатовичу В.А., которая, накануне исчезновения Завадского Д.А., была замечена около дома его проживания.

При осмотре указанной автомашины 04.08.2000 года в салоне и в багажнике были обнаружены бурые пятна, похожие на кровь, различной величины и конфигурации, которые изъяты путем соскобов, помещенных в отдельные конверты /конверт № 2, № 3 и №4/.

В автомашине так же были изъяты сумка с пятном бурого цвета /пакет № 1/, три куртки /пакеты № 6,№7 и № 8/ и трое брюк /пакеты № 9,10 и № 11/. На куртках и брюках так же имеются пятна бурого цвета похожие на кровь.

В ходе осмотра изъяты окурки /пакет № 5/, двадцать две липкие пленки с микрочастицами из салона и багажника /пакет № 12/, а так же образцы напольного покрытия, обшивки сидений и дверей /пакеты № 13, № 14 и № 15/.

С учетом обстоятельств исчезновения Завадского Д.А. не исключается того, что на изъятых выше указанных вещах и предметах могут быть пятна крови или другие следы, имеющие отношение к расследованию

- 2 -

Поставить на разрешение экспертов ниже следующие вопросы:

1. Имеется ли на предоставленной для исследования штыковой лопате, изъятой 15.08.2000 года из багажника автомашины марки "Фольксваген-Гольф", гос.ном.33-85 КА, наслоения почвы и если да, то пригодны ли они для дальнейшего идентификационного исследования?

2. Если на штыковой лопате имеется почва, пригодная для исследования, то к какому типу местности она принадлежит?

3. Имеется ли на предоставленной для исследования штыковой лопате биологический /генетический/ материал и если да, то пригоден ли он для дальнейшего идентификационного исследования?

4. Если имеется и он пригоден для исследования, то принадлежит ли он человеку или животному?

5. Подтверждается ли или исключается принадлежность биологического /генетического/ материала потерпевшему Завадскому Д.А?

ПРИМЕЧАНИЕ: в случае обнаружения наслоений почвы, биологического /генетического/ материала или других следов, прошу Вас обеспечить надлежащее их изъятие и упаку в связи с возможным последующим исследованием при назначении дополнительных экспертиз.

Предоставить в распоряжение экспертов:

-штыковую лопату с деревянной ручкой упакованной в бумагу белого цвета, опечатанной и снабженной пояснительными надписями/пакет ном.8/.

Прокурор отдела по надзору за следствием в органах прокуратуры, внутренних дел, дознанием и ОРД мл.советник юстиции В.Д.Шабунько.

Эксперт Н.Кузуб дае наступныя высновы (цытуем таксама з дасланай копіі заключэння экспертызы):

«1. На поверхности предоставленной для исследования штыковой лопаты имеется биологический (генетический) материал человека, пригодный для проведения идентификационного исследования.

2. Принадлежность биологического (генетичного) (генетычнага) материала человека, обнаруженного в наслоениях по левому боковому краю задней поверхности металлического лезвия штыковой лопаты, потерпевшему Завадскому Д.А. п о д т в е р ж д а е т с я.

Эксперт (подпись) Н.Н.Кузуб».

Па нейкіх прычынах і пракурор, і эксперт карыстаюцца эўфемізмам «біялагічны (генетычны) матэрыял». Пад гэтай назвай могуць хавацца сліна, частка скуры, мача, кал, пот. Тым самым эўфемізмам карысталіся і два пракуроры – Іван Бранчэль і Міхаіл Снягір – калі роўна месяц таму склікалі прэсканферэнцыю, каб паведаміць журналістам пра заканчэнне следства па «справе Завадскага».

Але пастанова В.Шабунькі змяшчае таксама інфармацыю, якая дапамагае ўстанавіць: «біялагічны (генетычны) матэрыял» – гэта менавіта кроў. Вось яшчэ адна цытата: «При досмотре указанной автомашины («Фольксваген-Гольф», які належаў Валерыю Ігнатовічу і які быў затрыманы 3 жніўня 2000 года. – **Рэд.**) 04.08.2000 в салоне и в багажнике были обнаружены бурые пятна, похожие на кровь, разной величины и конфигурации, которые изъяты путем соскобов, помещенных в отдельные конверты (конверты №2, 3 и 4).

В автомашине так же были изъяты сумка с пятном бурого цвета, (пакет №1), три куртки (пакеты №6, №7 и №8) и трое брюк (пакеты №9, 10 и 11). На куртках и брюках так же имеются пятна бурого цвета, похожие на кровь».

Такім чынам, вялікая колькасць рэчавых доказаў залітая крывёй (пакінем «плямы, падобныя да...» следству). Мы мяркуем, што ёсць дастаткова падставаў лічыць, што на рыдлёўцы таксама была кроў, як бы ні спрабавалі замаўчаць гэты факт пракурорскія работнікі. Між крывёю і іншым «біялагічным» матэрыялам істотная розніца, бо крывёю пазначаецца злачынства.

Заканчэнне на стар.3

**ВЫБАРЫ**

## Як чорцік з табакеркі

*Пра сваё жаданне стаць прэзідэнтам Беларусі абсалютна нечакана заявіў амбасадар Беларусі ў Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі Міхаіл Марыніч. Да пазаўчарашняга дня імя гэтай асобы ніводнага разу нё ўзгадвалася ў сувязі з выбарамі, і раптам – такая навіна.*



Даволі цікавы спіс асобаў, якія ўвойдуць у склад ініцыятыўнай групы М.Марыніча. Гэта дэпутат Палаты прадстаўнікоў, былы намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч, былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў і былы начальнік галоўнага ўпраўлення па барацьбе з карупцыяй у органах упраўлення Камітэта дзяржкантролю Леанід Сечка, а таксама рэктар Міжнароднага гуманітарнага інстытута Аляксандр Алпееў.

Учора мы ўвесь дзень спрабавалі скантактавацца з М.Марынічам па тэлефоне, але на працы ў амбасадзе ў Рызе ён так і не з'явіўся. Маўчаў і мінскі тэлефон.

Тым часам, агенцтва БелаПАН распаўсюдзіла інфармацыю пра адну з першых публічных заяваў патэнцыйнага кандыдата. Міхаіл Марыніч заявіў, што ў выпадку свайго абрання першым кіраўніком Беларусі першым дакументам, які ён падпіша, стане ўказ аб стварэнні прэзідэнцкай рады. Паводле М.Марыніча, у выпадку ягонай перамогі ён прапануе ўвайсці ў будучую прэзідэнцкую раду ўсім пяцём патэнцыйным кандыдатам у прэзідэнты ад апазіцыі – Уладзіміру Ганчарыку, Сямёну Домашу, Сяргею Калякіну, Паўлу Казлоўскаму і Міхаілу Чыгіру.

Іван Пашкевіч, які пакуль што агучвае заявы свайго кандыдата, так пракаментаваў гэты крок: «Сваю прапанову «пяцёрцы» Міхаіл Марыніч робіць не таму, што гэтыя людзі вырашылі балатавацца ў прэзідэнты, а таму, што гэта вядомыя палітыкі, якія шмат робяць для росквіту сваёй краіны».

Заканчэнне на стар.3

## Лукашенко уже нарушил Избирательный кодекс

Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)

Подача Александром Лукашенко заявления о регистрации его группы может быть аннулирована из-за грубого нарушения закона: утром 14 июня, во время посещения Центризбиркома, в помещения ЦИК не допустили независимых журналистов.

Между тем, по словам секретаря ЦИК Николая Лозовика, председатель Лидия Ермошина заверила президента в том, что комиссия будет действовать строго в рамках действующего законодательства и Конституции Республики Беларусь.

Однако утром 14 июня в ЦИК не пустили независимых журналистов, не попавших в список пресс-службы А.Лукашенко. Хотя Избирательный кодекс Беларуси содержит норму свободного доступа для всех журналистов в любую избирательную комиссию.

В официальных газетах опубликовано постановление ЦИК, где говорится: «Представители средств массовой информации при освещении подготовки и проведения выборов Президента Республики Беларусь вправе присутствовать на заседаниях комиссий по выборам Президента Республики Беларусь, в помещениях для голосования при предъявлении документа, удостоверяющего их статус». На пресс-конференции 13 июня глава ЦИК Л.Ермошина подтвердила, что эта норма относится и к Центральной комиссии.

Утром 14 июня охрана А.Лукашенко не пустила в помещение ЦИК журналистку крупнейшей оппозиционной газеты «Народная воля» Анну Соусь. Ей сказали, что ее нет в президентских списках. Пресс-секретарь ЦИК Валерий Юревич отказался комментировать инцидент, переадресовав вопросы пресс-службе президента.

Агентству «Ю.С.Ньюс» стало известно, что на основании это факта несколько претендентов на пост президента на пятничном заседании Центризбиркома потребуют отказать в регистрации инициативной группе А.Лукашенко в связи с грубым нарушением им Избирательного кодекса при подаче документов в ЦИК.

**НАВІНЫ**

### Апазіцыя – бібліятэкам

Аб'яднаная грамадзянская партыя мае намер падпісаць 100 беларускіх бібліятэк на недзяржаўныя перыядычныя выданні. Падпіска будзе праходзіць у межах кампаніі «Хочам ведаць праўду». АГП заклікае далучыцца да сваёй ініцыятывы іншыя палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі.

### Не пускаюць адваката

Гомельскія памежнікі не дазваляюць адвакату Юрыя Бандажэўскага Аляксандру Баранаву сустрэцца з падабаронным. Нагадаем, прафесар Ю.Бандажэўскі быў затрыманы 10 чэрвеня пры спробе перасячэння беларуска-украінскай мяжы і зараз утрымліваецца на тэрыторыі памежатрада.

### Настаўнікам не плацяць

На 10 чэрвеня запазычанасць па зарплатах і адпускных перад педагогамі па ўсёй краіне склала 5 мільярдаў 235 мільёнаў рублёў. Найбольшая запазычанасць прыпадае на Магілёўшчыну, дзе 4 тысячы чалавек пайшлі ў летні адпачынак без заробкаў і адпускных.

### Небяспечнае шампанскае

Незвычайны судовы працэс мае адбыцца бліжэйшым часам. Жыхарка Брэста, якая пацярпела ад узрыву пляшкі шампанскага, будзе судзіцца з Мінскім заводам шампанскіх вінаў. Інцыдэнт здарыўся ў мінулыя выхадныя: бутэлька ўзарвалася прама ў пакеце, які несла кабета. У выніку жанчыне нават давялося рабіць на назе аперацыю.

### Турмы перапоўненыя

Паводле інфармацыі Хартыі'97, два следчыя ізалятары і 9 папраўчых установаў набітыя біткам. Яны разлічаныя на 8.500 асуджаных, а ў іх зараз знаходзіцца блізу 14.000. Тут багата праблемаў з аказаннем медычнай дапамогі вязням, асабліва што тычыцца сухотаў. Крэдыторская запазычанасць калоніяў складае 900 мільёнаў рублёў.

### Забарона прыбіраць наваколле

Сталінскі гарвыканкам не даў дазволу маладзёжнаму грамадскаму аб'яднанню «Звон» на ўборку гарадскога парку. Як паведамляе *BARC NEWS*, адмова матываваная тым, што ўборкай займаецца БПСМ. Аднак сябры «Звону» цвердзяць, што яны ні разу гэтага не бачылі: Манькавіцкі парк, дзе калісьці стаяла сядзіба Радзівілаў, знаходзіцца ў занядбаным стане.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1395**

# Знікненне Завадскага: каму трэба?

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

Трэба разумець, што ў следчых Д.Петрушкевіча і А.Случака ёсць яшчэ шмат дакументаў, якія праліваюць святло на забойства аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага. І ёсць шанцы, што яны таксама будуць абнародаваныя, бо, як сцвярджаецца, абодва следчыя ўжо знаходзяцца далёка ад Беларусі.



русской транспортной прокуратуры младшего советника юстиции Шабунько В.Д. для производства судебно-геномной экспертизы по уголовному делу № 19/17-2000 поступила штыковая лопата, изъятая из багажника автомашины "Фольксваген-Гольф", гос.ном. 33-85 КА.

6 сентября 2000 г. для проведения идентификационного исследования дополнительно были предоставлены образцы крови ближайших родственников Завадского Д.А. (Завадского А.В., Завадской О.Г., Завадской С.М. и Завадского Ю.Д.). 20 сентября 2000 г. в лабораторию были доставлены предметы одежды (куртка, свитер и вязаная шапка) Завадского Д.А.

Все поступившие материалы были соответствующим образом упакованы и опечатаны, снабжены пояснительными надписями, подписями следователя и понятых.

На разрешение судебно-геномной экспертизы вынесены следующие вопросы ":

*"3. Имеется ли на предоставленной для исследования штыковой лопате биологический (генетический) материал и если да, то пригоден ли он для дальнейшего идентификационного исследования ?*

*4. Подтверждается ли или исключается принадлежность ...*

ВЫВОДЫ

1. На поверхности предоставленной для исследования штыковой лопаты имеется биологический (генетический) материал человека, пригодный для проведения идентификационного исследования.

2. Принадлежность биологического (генетического ) материала человека, обнаруженного в наслоениях по левому боковому краю задней поверхности металлического лезвия штыковой лопаты потерпевшему Завадскому Д.А. подтверждается.

Эксперт Н.Н.Кузуб

## Каму маўчанне на карысць?

Адна з найбольш таямнічых постацяў, што паўстаюць пры вывучэнні матэрыялаў расследавання, – асоба камандзіра САХР (спецыяльны атрад хуткага рэагавання) Дзмітрыя Паўлючэнкі. Відавочна, што гэта непросты чалавек і што ён мае высокіх заступнікаў.

Падчас прэс-канферэнцыі І.Бранчэля і М.Снегіра было заяўлена: «Паўлючэнка не абвінавачаны, ён у нас як сведка. Ягоны ўдзел у злачынствах групы Ігнатовіча не выяўлены, і мы нават не ведаем, ці былі яны знаёмыя. Я ведаю, што ён затрымліваўся, але затрымліваўся супрацоўнікамі Камітэта».

А вось што паведамілі Д.Петрушкевіч і А.Случак: «Когда «разрабатывали» Игнатовича, установили, что 13 мая 2000 он вместе со своими подельниками под руководством командира спеподразделения МВД РБ СОБР Дмитрия Павлюченко участвовал в похищении начальника Контрольно-ревизионного управления министерства культуры РБ Грачева Александра Викторовича... На задержание Павлюченко, как возможного участника преступной группы, было дано «добро» руководства прокуратуры Беларуси...

Павлюченко был помещен в изолятор КГБ, где генеральный прокурор Божелко лично с ним беседовал и требовал от того, чтобы тот сознался, где же все-таки находится журналист Завадский?.. От Павлюченко, после того, как с ним побеседовал Божелко, поступила информация – что труп Завадского находится в районе Северного кладбища. Вероятнее всего, там же находятся и пропавшие белорусские политики – Гончар, Красовский, Захаренко. И в тот же день было приблизительно установлено место, где он захоронен, где находится его труп, потому что там никто не сомневался, что Завадский действительно убит. И лично Божелко подписал запрос на имя Генерального прокурора России Устинова. Он просил предоставить технику, предназначенную для отыскания трупов в земле, а также специалистов, поскольку в Беларуси такая техника на тот момент отсутствовала».

Тут гісторыя робіць нечаканы паварот. Трэба разумець, пра затрыманне Д.Паўлючэнкі ставяць у вядомасць А.Лукашэнку. Магчыма, інфармуюць яго такім чынам, што ён у момант скідвае з пасадаў старшыню КДБ Уладзіміра Мацкевіча і Генеральнага пракурора Алега Бажэлку. Дасведчаныя ў гэтай справе А.Бажэлка і У.Мацкевіч падышлі недапушчальна блізка да раскрыцця знікнення Д.Завадскага. Санкцыя на правядзенне следчых дзеянняў у дачыненні да камандзіра САХР каштавала ім як мінімум кар'еры. Можна толькі дзівіцца, чаму прафесіянал А.Бажэлка, які мог паставіць кропку у справах «гучных»знікненняў, аказаўся звольнены за «неадпаведнасць». Новым Генеральным пракурорам замест А.Бажэлкі А.Лукашэнка прызначыў абсалютна адданага яму чалавека – студэнта 3-га курса юрыдычнага факультэта БДУ Віктара Шэймана, які дагэтуль ачольваў Савет Бяспекі. 8 чэрвеня Савет Рэспублікі зацвердзіў прызначэнне студэнта на пасаду Генеральнага пракурора Беларусі. Гэта значыць, што далейшае расследаванне знікнення Завадскага ніякім чынам больш не будзе пагражаць інтарэсам А.Лукашэнкі.

Вынік замены Генпракурора ў дачыненні да справы Д.Завадскага праявіўся амаль адразу. На прэс-канферэнцыі ў траўні намеснік Генеральнага пракурора М.Снягір і кіраўнік следчай групы І.Бранчэль казалі толькі, што В.Ігнатовіча можна вінаваціць у выкраданні аператара ОРТ. А што сталася з ім пасля выкрадання – яны не ведаюць. Справа на вачах пакрылася новай таямнічай заслонай. Відавочна, што гэта выгадна вельмі высокім асобам.

На працягу некалькіх месяцаў ні пра А.Бажэлку, ні пра У.Мацкевіча не было чуваць нічога. Хадзілі чуткі, што абодва знаходзяцца пад хатнім арыштам, але ні пацвярджэння, ні абвяржэння гэтым чуткам не было. У траўні У.Мацкевіч быў прызначаны амбасадарам у Югаславію і, як ён сам паведаміў нам, даў згоду на ад'езд у Бялград. Але туды не паехаў дагэтуль, і дзе ён знаходзіцца цяпер, невядома. Невядома таксама, дзе цяпер знаходзіцца А.Бажэлка.

Што ж датычыць Дзмітрыя Паўлючэнкі, то ўжо на наступны дзень пасля змяшчэння ў следчы ізалятар КДБ выйшаў на волю.

Падчас прадстаўлення супрацоўнікам КДБ новага начальніка Леаніда Ерына Аляксандр Лукашэнка, у прыватнасці, узгадаў затрыманне Д.Паўлючэнкі як прыклад «самадзейнасці» старога кіраўніцтва. Недакладная цытата: «Мне мои родственники рассказали, что творится в Орше. Я распорядился направить туда людей и прекратить криминал. Он получил ранение, выполняя распоряжение президента. И такого человека арестовывают? Я распорядился его отпустить».

Падобна на тое, што А.Лукашэнка «пакрывае» Д.Паўлючэнку; значыць, яму гэта выгадна? Для абароны камандзіра САХРа змяняецца кіраўніцтва двух сілавых ведамстваў, развальваецца «справа Завадскага», справа Грачова, які праводзіў рэвізію ў Белдзяржцырку і за гэта быў выкрадзены і збіты, ды і ў іншых справах, якія спачатку ставілі ў віну «групе Ігнатовіча», адшукваюцца іншыя вінаватыя.

«Справа Завадскага», хутчэй за ўсё, з'яўляецца ключавой у гэтым ланцугу злачынстваў. Менавіта тут следству удалося знайсці зачэпкі, знайсці магчымых выканаўцаў выкрадання і забойства. Праз іх можна было дазнацца і пра іншыя злачынствы. Але пасля рэзкага ўмяшальніцтва А.Лукашэнкі ёсць шанец, што ўсёй праўды следства не дазнаецца ніколі. Няма зацікаўленасці. Невядома нават, ці дажывуць абвінавачваемыя да суда. З'явіліся звесткі, што галоўны абвінавачваемы Валерый Ігнатовіч мае вельмі кепскі стан здароўя і нават не можа хадзіць. Ягоная смерць магла б быць выратаваннем для сапраўдных арганізатараў і выканаўцаў іншых злачынстваў.

**Аддзел інфармацыі**

## З такім дыягназам не спрачаюцца

Агенцтва «Ю.С.Ньюс» распаўсюдзіла на гэтым тыдні інфармацыю са спасылкай на крыніцы ў Пракуратуры Беларусі, што ўзбуджаная некалькі месяцаў таму крымінальная справа супраць НАШАЙ СВАБОДЫ па факце паклёпу на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь закрытая. Прычым з фармулёўкай «у сувязі з адсутнасцю складу злачынства». Больш таго, «следчыя дзеянні супраць НАШАЙ СВАБОДЫ нават не пачыналіся». Сапраўды, следства аніякіх захадаў у дачыненні да рэдакцыі не ўжывала. Нагадаем, што гэтая крымінальная справа была ўзбуджаная напачатку гэтага года пасля апублікавання ў газеце вядомага дыягназу доктара-псіхіятра Зміцера Шчыгельскага, дзе ў Аляксандра Лукашэнкі была выяўлена «мазаічная псіхапатыя».

Агенцтва «Ю.С.Ньюс» падае, што афіцыйна паведамляць пра закрыццё крымінальнай справы пракурорскім работнікам пакуль што забаронена. Высветліць, ці адпавядае гэта рэчаіснасці, нам не ўдалося. У Рэспубліканскай пракуратуры пэўна нічога не адказваюць. Вядома толькі, што следчы Гардыка, які вядзе гэтую справу, знаходзіцца ў адпачынку. Бліжэйшымі днямі мы паспрабуем дамагчыся ад Пракуратуры канкрэтнага адказу.

## Прыклад наступным пакаленням

Напярэдадні 60-ай гадавіны з пачатку Другой сусветнай вайны па ўсім свеце згадваюць подзвіг людзей, якія аказалі супраціў фашызму. Сярод іх і Праведнікі Народаў Свету. Гэта людзі, якія рызыкавалі сваім жыццём, ратуючы ад нацыстаў габрэяў.

14 чэрвеня Ізраільская амбасада ў Мінску правяла чарговую цырымонію ўганаравання Праведнікаў Народаў Свету. Імі сталі яшчэ 11 жыхароў Беларусі. Прысуджэннем гэтых званняў займаецца адмысловая камісія Ізраільскага мемарыяльнага інстытута катастрофы і гераізму еўрапейскага габрэйства «Яд Вашэм». Сярод лаўрэатаў – жыхары Мінскай і Гродзенскай абласцей. Усе яны хавалі да фашысцкай расправы сяброў і зусім незнаёмых людзей.

У Ізраільскай амбасадзе адзначаюць, што «подзвігі, здзейсненыя гэтымі высакароднымі людзьмі, дазволілі чалавецтву не згубіць веру ў дабрыню і гуманізм, яны служаць доказам таго, што ў любой сітуацыі можна і трэба чыніць супраціў злу, і што супрацьстаяць яму здатны не толькі гурт людзей, але і людзі паасобку».

**Андрусь ВАЛЕВІЧ**

ВЫБАРЫ

## Як чорцік з табакеркі

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

І.Пашкевіч таксама паведаміў, што «прэзідэнцкая рада мысліцца як сталая структура дзяржаўнага кіравання, па сваім статусе прыраўнаная да Савета бяспекі». Паводле словаў Пашкевіча, у прэзідэнцкую раду ўвойдуць і прадстаўнікі вядучых палітычных партый.

Да таго, як ачоліць беларускую амбасаду, Міхаіл Марыніч працаваў міністрам знешнеэканамічных сувязяў ва ўрадах М.Чыгіра і С.Лінга. У ягоным паслужным спісе таксама амбасадарства ў Чэхіі, Венгрыі і Славакіі, старшынства ў Мінскім гарвыканкаме, праца ў будаўнічых і транспартных арганізацыях Беларусі.

Учора спісы ініцыятыўнай групы М.Марыніча былі пададзеныя ў Цэнтрвыбаркам.

Мы звязаліся з некаторымі прадстаўнікамі «пяцёркі», каб яны пракаментавалі з'яўленне новага патэнцыйнага кандыдата – гэтаксама, як і ягоную прапанову.

Сяргей Калякін, лідэр ПКБ: «Я пачуў гэтую прапанову нядаўна. Добра ведаю Міхаіла Марыніча яшчэ з часоў працы ў Мінскім гарвыканкаме. Пакуль што не магу сказаць нашага стаўлення да ягонай прапановы, бо мы ў «пяцёрцы» яшчэ яго не абмяркоўвалі. Але я асабіста не думаю, што ёсць рэзон уваходзіць у ягоную каманду. Цяпер кожны з нас мусіць займацца тым, чым займаецца: збіраць 100.000 подпісаў».

Міхаіл Чыгір: «Я вельмі добра ведаю Міхаіла Марыніча, ён быў міністрам знешнеэканамічных сувязяў, калі я быў прэм'ерам. Магу сказаць толькі станоўчае пра ягоныя чалавечыя якасці. А вось як раскручваецца палітычная інтрыга, хто стаіць за ягонай спіной – гэтага я пакуль не ведаю. Я думаю, што сустрэнуся з ім, перамоўлюся. Не думаю, што ён будзе ад мяне штосьці хаваць.

Калі паступіла ад яго нейкая прапанова – яе трэба абмяркоўваць «пяцёркай». Думаю, яму трэба пажадаць поспехаў. Ягоны намер сведчыць пра тое, што нарастае супраціў супраць Лукашэнкі. І гэта добра.»

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Працэс пайшоў...

Сёння заканчваецца першы этап прэзідэнцкай гонкі— падача дакументаў на рэгістрацыю ініцыятыўных групаў па зборы подпісаў за патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты.

13 чэрвеня на прэс-канферэнцыі старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына паведаміла, што па стане на 11.00 дакументы на рэгістрацыю ўжо падалі шасцёра патэнцыйных прэтэндэнтаў. Першым стаў дэпутат Вярхоўнага Савета 13 склікання генеральны дырэктар сумеснага германа-беларускага прадпрыемства «Міжнародны інстытут менеджмента» (МІМ-Беларусь) Віктар Цярэшчанка. 12 чэрвеня ён ўжо атрымаў рэгістрацыйнае пасведчанне за №1. Гэтым жа днём зарэгістраваная і ініцыятыўная група лідэра Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргея Гайдукевіча.

12 чэрвеня дакументы на рэгістрацыю падалі старшыня Гродзенскага абласнога аб'яднання «Ратуша» Сямён Домаш , Павел Казлоўскі , першы сакратар ЦК партыі камуністаў Сяргей Калякін. 13 чэрвеня раніцой па пошце ў ЦВК прыйшлі дакументы старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі – БНФ Зянона Пазьняка.

Пытанне пра магчымасць удзелу З.Пазьняка ў прэзідэнцкай гонцы старшыня ЦВК назвала «складаным»; рэч у тым, што З.Пазьняк ужо з пяць гадоў знаходзіцца ў эміграцыі за мяжой, а паводле Выбарчага кодэкса, кандыдатам у прэзідэнты можа быць грамадзянін, які апошнія 10 гадоў стала пражывае на Беларусі. Больш за тое, хаця Л.Ярмошына сцвярджае, што накіраванне дакументаў на рэгістрацыю па пошце і не супярэчыць заканадаўству, тым не менш звярнуўся ў Канстытуцыйны суд з просьбай даць тлумачэнні.

Паводле старшыні ЦВК, на прэзідэнцкую кампанію выдзяляецца каля 12 мільярдаў беларускіх рублёў. Пры гэтым 8 мільярдаў – гэта расходы ўчастковых выбарчых камісіяў, якіх у краіне каля 7 тысяч, больш за мільярд рублёў прызначаны для 160 тэрытарыяльных камісіяў; астатняе – каля 2 мільярдаў – гэта «расходы на кандыдатаў і расходы Цэнтральнай камісіі: на выраб рознай друкаванай прадукцыі, плакатаў, бюлетэняў, у тым ліку і сродкі рэзерву». Каштарыс ЦВК распрацоўваўся на 15 кандыдатаў, але іх можа быць і болей. Кожны кандыдат у прэзідэнты атрымае 2.300 мінімальных заробкаў, ці блізу 10 тысяч долараў ЗША. Іншых сродкаў фінансавання беларускае заканадаўства не прадугледжвае.

З 21 чэрвеня пачнецца вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты, і з гэтага дня пачынаецца збор подпісаў. 20 ліпеня вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты заканчваецца. Таму ўсе патэнцыйныя кандыдаты да 20 ліпеня мусяць падаць цэлы шэраг дакументаў: падпісныя лісты не менш як са 100 тысячамі подпісаў грамадзянаў, аўтабіяграфічныя звесткі, а таксама дэкларацыю пра даходы і маёмасць. Пасля гэтага 10 дзён ЦВК будзе правяраць пададзеныя звесткі, і потым прыступіць да рэгістрацыі кандыдатаў.

**P.S.** Калі нумар рыхтаваўся да друку, стала вядома, што ў Цэнтрвыбаркам паступілі дакументы на рэгістрацыю яшчэ некаторых ініцыятыўных групаў. Так, на прэзідэнцкую пасаду прэтэндуе віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі абароны правоў чалавека Мікалай Някека з самай, бадай, малой ініцыятыўнай групай, якая налічвае 135 чалавек. 14 чэрвеня каля 11.00 дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы ў ЦВК асабіста прывёз Аляксандр Лукашэнка. Ягоная ініцыятыўная група ў складзе 3.830 чалавек будзе збіраць подпісы пад кіраўніцтвам «сенатара» Мікалая Чаргінца. А.Лукашэнка выказаў пажаданне, каб ЦВК як мага лаяльней ставіўся да ўсіх прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла. Праўда, таго журналісты не чулі, бо іх не пусцілі ў ЦВК.

Пасля абеду дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы ў складзе 1.976 чалавек падаў і былы кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын. Ягоную групу ўзначальвае Уладзімір Сцяпанаў, намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама, які падаў у адстаўку. Апроч Сініцына, дакументы падалі таксама Аляксей Ляшко, Міхаіл Марыніч і Уладзімір Ганчарык.

**Рыгор БУЯН**

ДЗЕ?

7 ліпеня мінае год, як знік наш калега, тэлеаператар

ДЗЕ?

Рэпарцёры – не палітыкі. Журналісты – не суддзі. Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй. Няма рэпарцёра – няма суда? Дзе Дзмітрый Завадскі? Хто і з якога права распараджаецца яго лёсам?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!

Дзмітрый ЗАВАДСКІ ДЗЕ?

ЭПІТАФІІ

# Вялікаму містыфікатару

*Калі ўсё ж такі паставяць у Беларусі помнік дзеючаму зараз прэзідэнту, то вельмі магчыма, што эпітафія, у часткі пераліку заслугаў, будзе ўключаць і словы, вынесеныя намі ў загаловак артыкула.*

І ў гэтым не будзе нічога дзіўнага, калі ўспомніць, што амаль нічога з тых канкрэтных вынікаў, быццам бы дасягнутых Беларуссю пад кіраўніцтвам Лукашэнкі, на самой справе не існуе. Але на працягу ўсіх доўгіх гадоў гэтага кіраўніцтва значная частка людзей верыла, што яны ёсць. Верыла, быццам, Кашпіроўскаму, хоць колькасць, мовіць бы так, «выпадкаў энурэзу» на 1.000 насельніцтва не скарачалася, а павялічвалася.

А здароўе і дабрабыт, адпаведна, пагаршаліся. Прыкладам, толькі за перыяд з 1990 па 1998 год колькасць вязняў у беларускіх турмах павялічылася (на 100.000 насельніцтва) з 156 да 444 чалавек, наўмысныя забойствы, зробленыя мужчынамі (на 100.000 мужчын) — з 9 да 17 выпадкаў, злачынствы, звязаныя з наркотыкамі (на 100.000 насельніцтва) — з 4 да 28 выпадкаў, самазабойствы мужчын (на 100.000 мужчын) — 34 да 62 чалавек.

За гэты ж час колькасць разводаў падвысілася з 35 да 67,8% ад колькасці заключаных шлюбаў, а лік пазашлюбных дзяцей павялічыўся з 8,5 да 16,2% іх агульнай колькасці. Зразумела, гэта не апошнія дадзеныя, але з тае пары сітуацыя да лепшага не змянялася. Наадварот, памятаць колькасці насельніцтва па прычыне перавышэння смяротнасці над нараджальнасцю з 1994 г. на пачатак сёлетняга года — склала 340.000 чалавек. Зразумела, нас усё яшчэ шмат, але ўжо нашмат менш тых дзесяці мільёнаў, якіх колькасць насельніцтва дасягнула ў 1986 годзе.

Не будзем ужо казаць пра славуты рост вытворчасці ВУП, які ў асобныя гады перавышаў нават 10%. Пра гэта столькі распавядаў Лукашэнка і яго прэса, што не толькі беларусы, але і нашыя суседзі паверылі, што на прасторы паміж Верхнядзвінскам і Камарынам, Камянцом і Хоцімскам, вырас малады, падобны да азіяцкіх, тыгр, які стане сусветным лідэрам эканамічнага прагрэсу. А на самой справе? Вось дыягназ, пастаўлены днямі беларускай прамысловасці віцэ-прэм'ерам В.Кокаравым, які ўсе гэтыя гады шчыраваў на яе карысць побач з Лукашэнкам: «Не удается добиться существенного снижения запасов готовой продукции на складах. Рост таких запасов на некоторые виды изделий вызывает обоснованную тревогу за финансовое состояние государства и самих производителей. Причина, в первую очередь, в ценовой неконкурентоспособности. Многие предприятия производят продукцию заведомо убыточную — ради выполнения показателей. Это парадокс времени».

А хто ж стварыў гэты парадокс, хто вымушаў вытворцаў працаваць сабе на шкоду, хто казаў, што з гэтага атрымаецца вялікі плён? А атрымаўся пшык. Такі ж вялікі, як абяцаны плён. Бо, адзначыў далей Кокараў, знос абсталявання дасягнуў крытычнай рысы ў 80%. Можна папрасіць урадавых экспертаў падлічыць, колькі грошай спатрэбіцца, каб зліквідаваць наступствы нашага імклівага руху наперад. Але, мусіць, у іх няма камп'ютэраў такой моцы. А смеласці, мусіць, яшчэ меней: людзі ўсё ж адукаваныя, павінны зразумець, што ёсць вялікая розніца паміж жыццём і фокусам.

А дзе ўзяць тыя грошы, калі мы іх зарабіць не зараблялі, адно толькі крычалі на ўвесь свет, як усё ў нас добра. Цяпер суседзі, якія чакалі, што восьвось беларускаму капіталу стане цесна ў межах краіны і ён папрэ па сусветны рынак, тарэшчаць вочы: інвестар жа гол як сакол. А беларусы ўсё не могуць у тое паверыць і, развесіўшы вушы, слухаюць распаведы Лукашэнкі пра тое, што грошы ёсць, бо ён распрадаў маёмасць беларускага войска.



І ўсё падобна да таго, што ён сам паверыў, што грошы ёсць. А калі зразумеў, што не, пачалася натуральная істэрыка. Бо для стабілізацыі беларускай валюты напярэдадні выбараў патрабуецца ўсяго нічога. Нейкія там 100 тысяч долараў (па 10 цэнтаў на аднаго даверлівага беларуса), якія паабяцала даць Расія, а не дае. А Крэмль, які Лукашэнка заўжды крытыкаваў за няправільную, на яго погляд, палітыку, зараз літаральна сядзіць на нафтадоларах. Таму там толькі пасміхаюцца: «А где же твои деньги, Александр Григорьевич?»

Але гэту дробязь, зразумела, дадуць. Хоць і паздзекуюцца над «талерантнымі беларусамі». Тым больш, што Рыгоравіч пагражае ўзяць грошы ў Кадафі.

А між тым, як сцвярджаюць асобныя інстытуты даследавання грамадскай думкі, і сёння беларусы вераць у рэальнасць нашых дасягненняў і гатовыя абраць Лукашэнку на новы тэрмін.

Дык што там кажуць пра тое, што цэлы народ нельга ашукваць доўгі час? Можна, калі толькі мець талент містыфікатара...

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Камбайнавы крэдыт пад гарантыяй



Савет міністраў Беларусі прыняў рашэнне прадаставіць ААБ «Беларусбанк» урадавую гарантыю пагашэння крэдыту ў суме, эквівалентнай звыш за 23,4 мільёна еўра.

Размова ідзе пра крэдыт, які выдаецца гэтым банкам рэспубліканскаму унітарнаму прадпрыемству па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні аграпрамысловага комплексу «Белагразаб» тэрмінам на 18 месяцаў для аплаты 247 машынакамплектаў зернеўборачных камбайнаў. Яны пастаўляюцца ў адпаведнасці з дамовою куплі-продажу, заключанай паміж гэтым прадпрыемствам і нямецкай фірмай «ЛТФ Ландмашынэн унд Транспорттэхнік Фертрыбсгезэльшафт мбх».

У выпадку невыканання «Белагразабам» абавязкаў перад «Беларусбанкам» па пагашэнні крэдыту плацяжы па ім павінны будуць рабіцца міністэрствам фінансаў у роўных долях за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэтнага фонду падтрымкі сельгасвытворцаў, якія прадугледжваюцца на капітальныя ўкладанні, а таксама сродкаў мясцовых мэтавых бюджэтных фондаў.

Мінсельгасхарчу даручана забяспечыць выдзяленне «Белагразабу» сродкаў для фінансавання сёлета закупкі і зборкі 247 машынакамплектаў зернеўборачных камбайнаў, уключаючы расходы па крэдыце «Беларусбанка» і выплаце працэнтаў па ім, са сродкаў фонду падтрымкі сельгасвытворцаў у суме 4,3 мільярда рублёў і сродкаў мясцовых мэтавых бюджэтных фондаў у суме 11,7 мільярда рублёў.

Акрамя гэтага, Мінсельгасхарч павінен прадугледзець накіраванне сёлета на названыя мэты не менш як чатырох мільярдаў рублёў, якія будуць атрыманы ад арандатараў за тэхніку, перададзеную ім у доўгатэрміновую арэнду.

**Аляксей АРЭШКА**

ЭКСПРЭС

# Прогнозы, долги, расчеты

## Всемирный банк – первый займ за 6 лет

Совет директоров Всемирного банка (ВБ) одобрил предоставление Белоруссии займа в размере 22,6 млн. долларов США на переоборудование объектов социальной сферы. Это первый займ, полученный Белоруссией от ВБ с 1994 года. Займ предназначен для восстановления систем отопления, термоизоляции и освещения в 450 объектах социальной сферы по всей стране. Проект будет осуществляться в школах, больницах, детских приютах, а также домах престарелых и инвалидов. Предварительный пилотный проект стоимостью 1 млн. долларов, отработанный в нескольких зданиях в Минской области, доказал эффективность предусматриваемых мер.

## Таможенники не дремлют

Более 100 тысяч долларов США, 38 тысяч немецких марок, 355 тысяч российских рублей и другую валюту на общую сумму 182 миллиона 421 тысяча белорусских рублей изъяли таможенные службы Беларуси в мае 2001 года. Как сообщили в пресс-центре Государственного таможенного комитета, в целом за минувший месяц таможенники выявили 1.429 фактов нарушения таможенного законодательства, по которым изъято товаров и ценностей на сумму более 3 миллиардов рублей. Основными объектами таможенных правонарушений стали автотранспортные средства, сигареты, алкогольная продукция, валюта, изделия из цветных металлов, мясные продукты.

## Новая страховая компания

Правительство Беларуси учредило специализированную страховую компанию «Белэксимгарант», которая займется страхованием внешнеэкономических рисков. В частности, в ее задачу совместно с другими заинтересованными страховыми организациями входит разработка национальной системы страхования внешнеэкономических операций и экспортных кредитов. «Белэксимгарант» будет страховать риски при реализации программ, на которые выделяются бюджетные ссуды, а также проекты, чье финансирование осуществляется из союзного бюджета. Кроме всего прочего, в задачу новой компании входит страхование имущества, предоставляемого субъектами хозяйствования в залог под гарантированные правительством кредиты белорусских банков.

## О новых коммунальных тарифах

В ближайшее время существенное повышение тарифов на жилищно-коммунальные услуги для населения не планируется. Про это сообщил министр жилищно-коммунального хозяйства Беларуси Александр Милькота на пресс-конференции в Минске. Исключением является тариф на отопление и горячую воду, который, по информации министра, повышен в июне в 1,82 раза. По заявлению Милькоты, в летний период население оплачивает 19% себестоимости жилищно-коммунальных услуг, в зимний – 20%, а с учетом последнего увеличения тарифов на отопление и горячую воду этот показатель поднимается до 25-27%.

## Долги предприятий растут

К концу весны задолженность субъектов хозяйствования перед бюджетом превышала 100 миллиардов рублей. Об этом сообщил министр финансов Николай Корбут. Половина этой суммы, по его словам, составляют недоимки, связанные с налоговыми отсрочками, предоставляемыми промышленным предприятиям (около 44 миллиардов) и другими видами государственных льгот (около 6 миллиардов). Министр пожаловался на то, что исполнение доходной части бюджета идет очень тяжело. По его словам, в этом году производство в реальном секторе экономики отстает от планируемых показателей на 15 процентов, что, соответственно, привело к снижению налоговых поступлений. Как отметил министр, невыполнение бюджетных показателей по доходам создает значительные трудности с финансированием расходной части бюджета, в частности, с выплатой зарплат и отпускных в бюджетной сфере.

**Андрей КАРПОВИЧ**

# Мінфіну патрэбная валюта

Міністэрства фінансаў прыступіла да рэалізацыі другога выпуску аблігацыяў дзяржаўнай выйгрышнай валютнай пазыкі Рэспублікі Беларусь. Пра гэта 12 чэрвеня на прэс-канферэнцыі паведаміў намеснік міністра фінансаў Аляксандр Курлыпа.

Паводле звестак мінфіна, усяго ў абарачэнне будзе выпушчана 10 тысяч аблігацыяў намінальным коштам 100 долараў ЗША кожная. За перыяд абарачэння аблігацыяў другога выпуску будуць праводзіцца чатыры тыражы розыгрышаў грашовых выйгрышаў: 5 верасня і 5 снежня 2001 года, а таксама 5 сакавіка і 3 чэрвеня 2002 года. У кожным тыражы будуць браць удзел усе аблігацыі другога выпуску, прададзеныя да правядзення дадзенага тыражу. Таму ўладальнікі аблігацыяў, якія набудуць іх да моманту правядзення першага тыражу выйгрышаў, маюць магчымасць выйграць 10 долараў у кожным тыражы і атрымаць даход у памеры 40 працэнтаў гадавых. Згодна з умовамі выпуску, выйгрышы выплачваюцца толькі ў валюце пазыкі — доларах ЗША. Адначасова з апошнім тыражом, які адбудзецца 3 чэрвеня 2002 года, будзе праводзіцца розыгрыш рэчавых выйгрышаў.

Мінфін таксама трохі змяніў умовы размяшчэння аблігацыяў. У прыватнасці, па словах выконваючага абавязкі начальніка ўпраўлення рынку каштоўных папераў міністэрства Мікалая Сарокі, рэалізацыя аблігацыяў спынніцца 27 сакавіка — за тры месяцы да заканчэння тэрміну іх абарачэння. На гэты крок мінфін пайшоў пасля аналізу вынікаў рэалізацыі аблігацыяў першага выпуску. Яны, у прыватнасці, паказалі, што найбольшая колькасць аблігацыяў распрадалася ў сакавіку 2001 года, у апошнія дні размяшчэння аблігацыяў, і міністэрства фінансаў не мела магчымасці эфектыўна выкарыстаць сродкі, атрыманыя ад іх размяшчэння.

Прааналізаваўшы фактары, што ўплываюць на рост іх рэалізацыі насельніцтву, у мінфіне прыйшлі да высновы аб яго залежнасці ад тэлевізійнай рэкламы. З гэтай прычыны тэлевізійную рэкламу другога выпуску аблігацыяў маркуецца павялічыць. Нягледзячы на тое, што па выніках першага выпуску аблігацыяў было размешчана толькі каля 42 працэнтаў ад аб'ёму выпуску, у мінфіне палічылі мэтазгодным прадоўжыць размяшчэнне каштоўных папераў гэтай пазыкі сярод насельніцтва. Пры гэтым, па словах Мікалая Сарокі, у міністэрстве разлічваюць, што падчас абарачэння каштоўных папераў другога выпуску актыўнасць грамадзянаў будзе не меншай, чым раней.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН**

# Суперкамп'ютэру не хапае фінансавай энергіі

Асноўныя цяжкасці ў рэалізацыі праграмы Саюзнай дзяржавы «Распрацоўка і асваенне ў серыйнай вытворчасці сямейства высокапрадукцыйных вылічальных сістэмаў з паралельнай архітэктурай (суперкамп'ютэраў) і стварэнне прыкладных праграмна-апаратных комплексаў на іх аснове» звязаныя з яе недастатковым і нерытмічным фінансаваннем. Пра гэта заявіў начальнік адміністрацыйнага дэпартамента Пастаяннага камітэта СД Сяргей Мартысюк.

С.Мартысюк паведаміў, што ўсяго на рэалізацыю праграмы, разлічанай на 2000-2003 гады, з саюзнага бюджэту павінна быць выдзелена 319 мільёнаў 400 тысяч расійскіх рублёў, пры гэтым доля Расіі складае 157.400.000, Беларусі — 162.000.000 рублёў. Агульная сума эквівалентная прыкладна 11 мільёнам долараў па курсе на пачатак чэрвеня. Разам з тым ЗША на нацыянальную праграму стварэння камп'ютэраў звышвысокай прадукцыйнасці выдзелілі больш за 4 мільярды долараў. У 2000 годзе фінансаванне праграмы «СКІФ» было прадугледжанае ў аб'ёме каля 24 мільёнаў рублёў і пачалося ў сярэдзіне года, аднак па стане на 31 снежня з бюджэту паступіла толькі 69 працэнтаў сродкаў ад запланаванага. На 2001 год, па словах С.Мартысюка, фінансаванне запланаванае з вялікім дэфіцытам. Такім чынам, за два гады рэалізацыі праграмы павінна быць асвоена ўсяго каля 80 з 319 мільёнаў рублёў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН**

# Аблава на гандляроў

На найбуйнейшым рэчавым рынку Варшавы сіламі паліцыі, памежнікаў і супрацоўнікаў мытні была праведзена аблава на гандляроў нелегальным таварам.

Падчас яе былі затрыманы больш за 80 грамадзян Беларусі, Арменіі і Украіны. Паліцыя канфіскавала 18 тысяч нелегальных кампакт-дыскаў, вялікую колькасць гарэлкі і цыгарэтаў без акцызных марак, відэакасеты з дзіцячай парнаграфіяй, тэкстыльныя вырабы.

Як паведаміла прэс-служба варшаўскай паліцыі, у дачыненні да 20 з затрыманых грамадзян ужо распачата працэдура, якая папярэднічае высылцы з краіны.

**Алег САКАЛОЎ**

# Чыкін напрацаваўся

## БТ не спраўляецца вешаць на вушы локшыны

*Заява аб гэтым аздоблена фармулёўкай «па стане здароўя», у ёй жа выконваючым абавязкі кіраўніка Беларускага тэлебачання Чыкін прызначыў Ягора Рыбакова, які працаваў ягоным намеснікам. Пра такое рашэнне Чыкіна супрацоўнікі Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі даведаліся 13 чэрвеня на агульным сходзе працоўнага калектыву. Прычым завочна, бо Чыкін на сходзе не прысутнічаў: днямі ён нечакана пайшоў у адпачынак. Чыкінскую заяву бэтэшнікам агучыў Уладзімір Замяталін. Можна не сумнявацца, што просьбу аб адстаўцы задаволяць.*

Нагадаем, што кіраваць Беларускім тэлебачаннем Віктар Чыкін быў прызначаны з пасады намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама ў леташнім ліпені замест Рыгора Кісяля. Такім чынам, у адрозненне ад Кісяля, які адпрацаваў старшынём БТ 6 гадоў, Чыкін прабыў ім нават меней года.

Адстаўцы Чыкіна папярэднічала наведванне Аляксандрам Лукашэнкам 12 чэрвеня кінастудыі «Беларусьфільм», які гаварыў там не толькі пра кінематограф, але і якраз пра Беларускае тэлебачанне. У прыватнасці, Лукашэнка заявіў, што бліжэйшым часам не выключаныя «сур'ёзныя змены» ў кіраўніцтве Белдзяржтэлерадыёкампаніі. Бліжэйшы час аказаўся дужа блізкім – прайшоў усяго дзень. «Сур'ёзныя змены» сталі звычайным анонсам. А рашэнне аб адстаўцы, здаецца, было прынятае яшчэ падчас нядаўняй асабістай сустрэчы Чыкіна з Лукашэнкам, якая адбылася 4 чэрвеня. Афіцыйна тады паведамлялася, што кіраўнік Белдзяржтэлерадыёкампаніі зрабіў даклад і прадставіў праект тэхнічнага пераўладкавання тэлебачання. А насамрэч атрымалася, што зрабіў справаздачу і здаў справы. А потым пайшоў у адпачынак, з якога на Макаёнка, 9 на службу больш не выйдзе.

Відочна, што А.Лукашэнка зусім не задаволены тым, як і па змесце, і па форме выглядае Беларускае тэлебачанне, а значыць, хадой і вынікамі рэформаў на Першым і адзіным беларускім агульнанацыянальным тэлеканале, якія мусіў праводзіць Віктар Чыкін. А гэта ж галоўны інфармацыйна-агітацыйны рэсурс кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі. Гэтыя самыя выбары ўжо на носе.

З прыходам непрафесіянала Чыкіна на БТ праграмы сталі яшчэ менш цікавымі і глядзельнымі (сітуацыя змянілася хіба што з мастацкімі фільмамі). Разам з непрыцягальнымі непалітычнымі перадачамі эфір БТ багата папоўніўся прапагандысцкімі і ідэалагічнымі тэлетворамі, змайстраванымі Азаронкам, Дудзінавым, Новікавым. Засталіся Мялешка і Зімоўскі, і палітыкі на БТ, прычым яна падаецца пераважна па-пячорнаму і навязліва, стала занадта шмат. Беларускае тэлебачанне выглядае зараз як сумесь грубай прапаганды і пустых забаўляльных дрындушак пры слабым тэхнічным аздабленні. Перадвыбарны антыапазіцыйны і пралукашэнкаўскі акцэнт тэлебачання становіцца аскомінным, публіка перасыцілася гэтым. Больш таго – недалёка да эфекту бумерангу. Уладам ужо даводзіцца адключаць расійскія тэлеканалы, каб беларусы глядзелі Лукашэнку.

Хто ж будзе ачольваць працэс «рэфармавання» БТ далей? Сярод мажлівых кандыдатур-заступнікаў Чыкіна называецца ў першую чаргу стаўшы в.а. Ягор Рыбакоў. Нагадаем, гэта колішні старшыня Магілёўскага абласнога тэлебачання. Вельмі верагодна, што Лукашэнка спыніцца на маладым магілёўскім кадры. З таго зараз пара будзе ісці, так будзе старацца дагадзіць шэфу, каб застацца на чале БТ.



Фота IREX/ProMedia

Чыкіну сюды ўваход ужо забаронены

Гэта можа быць і нехта з кіношнікаў. Нездарма ж падчас візіту на «Беларусьфільм» Лукашэнка казаў пра неабходнасць больш шчыльнага супрацоўніцтва кінематаграфістаў і тэлевізіёншчыкаў. Праўда, у што гэта можа ператварыцца пры цяперашняй уладзе, ілюструе зараз праца на БТ рэжысёра Азаронка, якому аддалі на тэлебачанні нават пасаду рэдактара літаратурна-драматычных перадачаў. Пры гэтым рэдакцыя гэта па профілі амаль нічога не здымае, а Азаронак выдае фільм за фільмам з серыі сваіх адыёзных і хамскіх «Таемных спружынаў палітыкі». Як пра адну з верагодных кандыдатураў заступніка Чыкіна на месцы старшыні ў тэле- і кінаколах гаворыцца пра асобу Юрыя Цвяткова, які вядомы як намеснік міністра культуры, што курыруе галіну кінематографа (дарэчы, бліжэйшым часам гэтую пасаду ў мінкульце збіраюцца скасаваць). Таксама называюцца прозвішчы колішняга міністра культуры Уладзіміра Сасноўскага, дарадцы прэзідэнта Сяргея Посахава, галоўнага рэдактара «Советской Белоруссии» Паўла Якубовіча, намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна, пісьменніка, генерала і сенатара Мікалая Чаргінца. З боку Лукашэнкі могуць быць і абсалютна нечаканыя кадравыя рашэнні, як гэта было амаль год таму з тым жа Чыкіным.

На «Беларусьфільме» А.Лукашэнка таксама заявіў, што яшчэ не загінула ідэя Другога нацыянальнага канала і што ўвасобіцца яна на базе Сталічнага тэлебачання. Гэта не дужа рэальна, бо СТВ толькі якую жменьку часу мае ў эфіры ўласных праграмаў, а 95% — гэта рэтрансляцыя расійскага *Ren-TV*.

Што да кінавытворчасці, то, са словаў Лукашэнкі, дзяржава абяцае да канца года вырашыць пытанне з абнаўленнем здымачнай і гукавой апаратуры і плануе замовіць беларускім кінематаграфістам некалькі «сур'ёзных кінакарцінаў», знятых на беларускія грошы і з удзелам збольшага беларускіх акцёраў. Падчас папярэдняга прыезду на кінастудыю А.Лукашэнкі з'явіўся скандальны, пасярэдні і зусім небеларускі фільм Міхаіла Пташука «У жніўні 44-га». Які «шэдэўр» мы атрымаем на гэты раз? Можна спрагназаваць, што падобны да пташукоўскага, бо, як сказаў Лукашэнка, кіно для яго ёсць «асноўным інструментам ідэалагічнай работы».

Тыя самыя падыходы вызнаюцца і да тэлебачання. Так што няцяжка здагадацца, што будзе з'яўляцца на экранах у Беларусі, прынамсі, да восені.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Кніга пра Карскага і беларусаў

На наступным тыдні, як абяцаюць выдаўцы, у продажы з'явіцца новы, шаснаццаты, том «Беларускага кнігазбору» — кніга «Яўхім Карскі і яго «Беларусы», прымеркаваная да 100-годдзя першага выдання «Беларусаў», якое з'явілася ў 1903 годзе ў Варшаве.

Пасля гэтага яна выдавалася толькі ў Маскве ў пачатку 20-х гадоў.

«Беларусы» Карскага ўключаюць 3 тамы, але, як растлумачыў галоўны рэдактар выдавецтва Кастусь Цвірка, паколькі «Беларускі кнігазбор» ёсць асветніцкім выдавецтвам, разлічаным на шырокае кола чытачоў, няма магчымасцяў выдаваць гэтую вядомую кнігу ў поўным аб'ёме. Па ягоных словах, у Акадэміях навук Расіі і Беларусі раней існаваў праект выдаць разам усю творчую спадчыну Яўхіма Карскага, у тым ліку і «Беларусаў», але ён так і застаўся не здзейсненым.

Нягледзячы на тое, што «Беларусы» Карскага стала першай грунтоўнай энцыклапедычнай кнігай аб беларусах, нашай мове і культуры і стала асновай для адраджэння нацыянальнага руху ў Беларусі ў канцы 19 — пачатку 20 стагоддзя, сам ён прытрымліваўся літаральна супрацьлеглых поглядаў. Займаючы пасаду акадэміка ў Акадэміі навук Расійскай Імперыі, ён разглядаў Беларусь усяго толькі як паўночна-заходні край Расіі, а беларускай мове адводзіў толькі культурніцкія функцыі і лічыў яе няздатнай для іншых сфераў дзейнасці. Таму і сваіх «Беларусаў» ён напісаў на рускай мове. Менавіта з-за такіх ягоных поглядаў, арганізуючы ў Беларусі Нацыянальную Акадэмію навук, маладыя беларускія адраджэнцы туды яго не запрасілі.

Па словах галоўнага рэдактара «Беларускага кнігазбору», кніга выдаецца без грашовай дапамогі дзяржавы, а выключна на ўласныя сродкі выдавецтва. Наклад ейны складзе 3,5 тысячы асобнікаў.

**Алена ЛАБАНАВА**

# «Бумэранг»

*Сёньняшняя мы зьвяртаемся да падзеяў, якія адбываліся ў Беларусі 70 год таму. Тады, на пачатку 1930-х гг., значную частку беларускай інтэлігенцыі абвінавацілі ў прыхільнасьці да нацыянал-дэмакратызму й зьнішчылі ў сталінскіх турмах і лягерах. Газэты й часопісы тых гадоў разгарнулі сапраўднае цкаваньне тых, каго АГПУ ў хуткім часе сабрала пад справаю гэтак званага «Саюзу Вызваленьня Беларусі» (СВБ). Цяпер няма сумневу, што гэтую справу сфабрыкавалі «органы» з мэтаю эфэктыўна расправіцца з нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыяй.*

У 1930 г. па справе СВБ пачаліся масавыя арышты, судовы працэс цягнуўся да сакавіка 1931 году. Усяго па справе СВБ праходзілі 108 чалавек, сярод якіх былі акадэмікі Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Сьцяпан Некрашэвіч, прафэсар Аркадзь Смоліч, пісьменьнікі Максім Гарэцкі, Уладзімер Дубоўка, Язэп Пушча й дзясяткі іншых — квецень і гонар беларускай культуры й навукі. Усе арыштаваныя абвінавачваліся ў тым, што яны «зьяўляліся членамі контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі «Саюз Вызваленьня Беларусі», ажыцьцяўлялі арганізаванае шкодніцтва на культурным, ідэалягічным ды іншых участках сацыялістычнага будаўніцтва, праводзілі антысавецкую нацыяналістычную агітацыю, накіраваную на запавольваньне тэмпаў разьвіцьця Беларусі па сацыялістычным шляху, ставячы канчатковаю мэтаю адарваньне Беларусі ў этнаграфічных межах ад Савецкага Саюзу, стварэньне так званай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)».

Па сфальсыфікаванай справе СВБ 90 чалавек атрымалі розныя тэрміны зьняволеньня, зь іх – 89 беларусы і 1 расеец, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Мікалай Шчакаціхін. Сёньняшні «Бумэранг» мы прысьвячаем ягонаму лёсу.

Мікалай Шчакаціхін нарадзіўся ў 1896 годзе ў Маскве, у дваранскай сям'і. Пасьля гімназіі, якую скончыў з залатым мэдалём, ён паступіў у Маскоўскі ўнівэрсытэт на аддзяленьне тэорыі й гісторыі мастацтва. Скончыўшы ўнівэрсытэт у 1918-м, тры гады «блукаў» па прасторах РСФСР, працуючы ў розных культурных установах. У сьнежні 1922 году прыехаў у Менск, дзе ў студзені 1922 году яго запрасілі на пасаду асыстэнта катэдры гісторыі мастацтваў БДУ.

У 1923 г. Шчакаціхін ужо распрацоўвае самастойны курс па гісторыі й тэорыі беларускага мастацтва, які чытае ўпершыню ў 1924 г. Тады ж пачынае працу над першым томам «Нарысаў зь гісторыі беларускага мастацтва». У тым жа 1924 г., абараніўшы навуковую працу, атрымлівае званьне дацэнта БДУ на катэдры гісторыі мастацтваў. У 1925 г. пераходзіць на выкладаньне дысцыплінаў выключна на беларускай мове. У тым жа 1925-м рыхтуе 1-ю Ўсебеларускую мастацкую выстаўку й складае яе каталёг, у якім праводзіць ідэю, што беларускае мастацтва ёсьць арганічнаю часткаю эўрапейскай культуры.

У 1927 г. Шчакаціхіна прызначаюць навуковым сакратаром Інстытуту Беларускай Культуры па вывучэньні мастацтва Беларусі.

Менавіта ён знайшоў «ключ», як можна вызначыць час стварэньня датаваньня культурных помнікаў: вывучаючы творчасьць Францыска Скарыны, беларускую кніжную графіку XVI-XVIII стст., ён першым прыйшоў да высновы, што ў Беларусі — і ў гэтым каласальная розьніца паміж беларускім і расейскім мастацтвам — мясцовыя іканапісцы ў якасьці ўзораў выкарыстоўвалі заходнеэўрапейскія гравюры, а не расейскія — прорысы, кшталт трафарэту. Шчакаціхін, распрацоўваючы мэтадалёгію сярэднявечнага мастацтва, упершыню стаў сыстэматызаваць беларускія помнікі па тапаграфіі і па стылістыцы.

Першы раз Шчакаціхіна арыштавалі 21 ліпеня 1930 году. Ён атрымаў 5 год высылкі й адправіўся зь сям'ёю ў Башкірыю, у горад Белебей. Працаваў статыстыкам Белебееўскага райспажыўсаюзу, рахункаводам гарадзкога спажывецкага таварыства, плянавіком, выкладчыкам нямецкай мовы, даваў урокі лаціны вучням белебееўскай аптэкі. Там, у Белебеі, арыштоўваўся яшчэ два разы. У лютым 1940 г. у стане цяжкай хваробы, сухотаў, скончыў працу над рукапісам «Нарысы гісторыі літоўскай манэты XVI-XVII стст.». А 5 красавіка 1940 г. памёр. За возам, на якім стаяла труна, накрытая дзяружкаю, ішлі толькі жонка, старэйшы сын і суседка.

За радкамі біяграфіі часам нельга ўбачыць асобу неардынарную, прыцягальную, а менавіта такім і быў Мікола Шчакаціхін. Ён дасканала валодаў нямецкай, францускай, грэцкай, лацінскай мовамі. У Башкірыі нават спрабаваў вывучыць 12 роднасных цюрскіх моваў (чувaскую, татарскую, башкірскую ды іншыя). Быў бібліяфілам — у ягонай калекцыі захоўваўся фаліянт «Літоўскай мэтрыкі» XIV ст., якім ён асабліва ганарыўся.

Свае першыя працы ён пісаў па-расейску, але — цытую ўспаміны жонкі Шчакаціхіна беларускі, мянчанкі Ганны Раманавай: «Прыходзіў перакладчык Касьпяровіч і зачытваў пераклад на беларускую мову. Мікалай Мікалаевіч заставаўся незадаволеным і вырашыў вывучыць беларускую мову. Авалодаў ёю ў дасканаласьці й усе наступныя кнігі пісаў па-беларуску. Палюбіў яе так, як любіў Беларусь, дзе расквітнеў ягоны дар навукоўца-дасьледніка. Да канца сваіх дзён ён адчуваў у душы сябе беларусам. Спадзяваўся вельмі многа зрабіць для Беларусі, якая стала яму роднай».

Няцяжка ўявіць сабе, што прыйшлося перажыць Шчакаціхіну ў тыя гады. Па-першае, цэлы год яго цкавалі, газэты абвінавачвалі ў шкодніцтве, у тым, што ён займаецца непатрэбнымі рабочым касьцёламі ды царквамі з абразамі, а потым абсурдны й ганебны арышт.

Цытую ўспаміны жонкі: «Званок у дзьверы каля 12 гадзіны ночы не абяцаў нічога добрага. Уварваліся... «Рукі ўгару! Вы арыштаваныя!» Мікалаю паказалі на крэсла. Я стала насупраць. Нам не дазвалялі размаўляць. Мы былі ашаломленыя. З жахам і тугою глядзелі адзін на аднаго, разумеючы, што разбураецца нашае жыцьцё, нашае шчасьце, яго навуковая кар'ера.




У мяне на руках енчыла нованароджаная дачушка. Пад раніцу трагічны фарс быў скончаны. Нас прысьпешвалі разьвітвацца. Мы абняліся. Адыходзячы, Мікалай усклікнуў: «Дзеці! Дзеці!» Я засталася адна, быццам пасьля пагрому. Да полудня заставалася пад хатнім арыштам. Вартавы не выпускаў мяне з пакою на кухню, каб пакарміць дзяцей».

Падчас спатканьня ў турме Шчакаціхін папрасіў жонку перадаць ягоную ўнікальную бібліятэку ў дар Ленінскай бібліятэцы ў Менску. Але дырэктар бібліятэкі, нехта Сіманоўскі, не пажадаў нават азнаёміцца са сьпісам кніг. Найкаштоўнейшыя тамы чамусьці наводзілі на яго жах. Кнігі прыйшлося перад ад'ездам да мужа ў ссылку скласьці ў хляве. Прафэсар унівэрсытэту Нікольскі, які прыязна ставіўся да сям'і Шчакаціхіна, прапанаваў калегам па ўнівэрсытэце дапамагчы ім матэрыяльна, але высакародную прапанову так і не падтрымалі.

Падчас свайго другога арышту ў 1935 г., знаходзячыся ў белебееўскай турме, Шчакаціхін напісаў некалькі вершаў, якія адлюстроўвалі ягоны душэўны стан:

*Три дня провел я в мраке преисподней;*
*Три ночи в жутких безднах я бродил;*
*И тяжко гнев меня карал господний.*
*Все то, чем жил я, все, что я любил,*
*Сжигало сокрушительное пламя,*
*И с ним бороться не имел я сил...*

І таму нельга не зьдзівіцца таму, што ён, сьмяротна хворы, да апошніх дзён працягваў займацца гісторыяй беларускага мастацтва, не пакідаючы ідэі напісаць шматтомную гісторыю беларускага мастацтва. Пакараны толькі за тое, што прывязаўся душою да Беларусі, стаў яе сапраўдным руплііўцам і заступнікам, Шчакаціхін падзяліў лёс тысячаў яе сыноў.

**Алена АРЭШКА**
**Радыё Рацыя**

## Хто мае кацяня – болей жыве



Муж і жонка, якія валодаюць агульным сабакам ці катом, разводзяцца радзей, чым сем'і, дзе не трымаюць у хаце істоту на чатырох лапах. Да такога добрага для хатніх жывёлаў заключэння прыйшла група канадскіх натуралістаў, якая на працягу некалькіх гадоў даследавала розныя аспекты ўзаемаўплыву чалавека і акаляючага яго навакольнага асяроддзя. На сотнях апытаных яны ўстанавілі, прыкладам, што жонка будзе менш сварыцца з мужам, калі падараваць ёй маленькага хамячка ці пушыстае персідскае кацяня. Безабаронная істота абудзіць у жаночай душы пяшчоту, вытраўленую нудным сямейным жыццём, і стасункі ў сям'і пазбавяцца напругі.

Даследаванні паказалі, што станоўчы ўплыў на інтымныя адносіны мужа і жонкі аказваюць экзатычныя рыбкі, калі акварыум з імі паставіць у спальні. Яны супакойваюць нервовую сістэму, а на біялагічным узроўні нейкім чынам узмацняюць юрлівыя жаданні. Апрача той радасці, якую можа даць любімы сабачка, ён паспрыяе і здароўю. Уладальнікі сабачак маюць на 4% меней жыру, чым людзі, якія не любяць, каб «меншы брат» выцягваў іх на прагулянкі ранкам і перад сном. Да таго ж сабраныя даследнікамі статыстычныя дадзеныя сцвярджаюць, што людзі, якія сябруюць з хатнімі жывёламі і ўтрымліваюць у хаце белага пацучка, сабачку, кацяня, казляня ці вавёрку, жывуць у сярэднім на 6 гадоў болей сваіх меней сардэчных аднагодкаў.

**Эльза КУРЛОФ**

## Паплаціліся за нездаровую цікаўнасць

Літаральна адразу пасля пакарання смерцю амерыканскага тэрарыста Цімаці Маквэя на мностве інтэрнэт-чатаў з'явілася прапанова «скачаць» відэазапіс працэсу пакарання. Асобы, схільныя назіраць змрочныя сцэны гвалтоўнай смерці, канвульсіі і апошні ўздох, неабачліва «купіліся» на прыманку і сталі ахвярамі невядомых камп'ютэрных піратаў. Замест кадраў, на якіх выканаўца самага буйнога тэракта ў Амерыцы на працягу 10 хвілінаў паміраў ад ін'екцыі атруты, цікаўныя атрымалі вірус, які адкрывае ўваход хакерам да іхных камп'ютэраў.

Па словах спецыялістаў, гэты камп'ютэрны «траянскі конь» быў створаны яшчэ ў 1999 годзе, але яго дзеянне распаўсюджваецца толькі на камп'ютэры, абсталяваныя аперацыйнай сістэмай *Windows*. Вірусы падобнага тыпу адчыняюць злодзеям доступ да заражанага камп'ютэра, які потым можа быць выкарыстаны імі для больш сур'ёзнай кібер-атакі, што дазваляе добра заблытваць сляды камп'ютэрных піратаў. Эксперты мяркуюць, што сур'ёзнага распаўсюджання гэтага віруса чакаць не варта з-за абмежаванай колькасці аматараў песімістычных відовішчаў, а таксама таму, што інфармацыю пра гэты вірус мае бальшыня антывірусных праграмаў. Але гэты свежы інцыдэнт сведчыць, што камп'ютэрныя злачынцы паступова пачынаюць мяняць сваю тактыку, скарыстоўваючы для прыцягнення сваіх патэнцыйных ахвяраў іхныя маральныя хібы.

**Стась ЧАРОПКА**



# «Фабрыка рэкордаў» Вячаслава Харанекі

*Спартыўная грамадскасць добра ведала мінчаніна яшчэ задоўга да таго часу, калі ён стаў устанаўліваць свае незвычайныя рэкорды па ўзняцці цяжкасцяў розным спосабам над галавой за перыяд ад адной хвіліны да паўтара сутак.*




Фота Ул.ШЛАПАКА

11-разовы чэмпіён рэспублікі па гіравым спорце, уладальнік кубкаў СССР, СНД і Беларусі, майстар спорту міжнароднага класа ўвесь час быў мацнейшым у сваёй вагавай катэгорыі, не меў садернікаў на памосце на працягу дзесяці гадоў. І вось аднойчы яго трэнер Віктар Фёдаравіч Кавалёў, падрыхтаваўшы, дарэчы, шмат выдатных майстроў у цяжкай атлетыцы, гіравым спорце, армрэстлінгу, неяк прапанаваў выступіць у Лунінцы, у час спаборніцтваў па зусім іншым відзе – барацьбе на руках – з паказальнай праграмай. Тады Харанека – а было гэта роўна 10 гадоў таму – і ўстанавіў свой першы незвычайны рэкорд, штурхнуўшы дзве гіры вагой па 32 кілаграмы 101 раз за 20 хвілінаў. Праз два месяцы яго запрасілі выступіць на Беларускім тэлебачанні ў прамым эфіры тэлеклуба «Асілак». Пасля перадачы, у прыватнай размове, і нарадзілася ідэя паспрабаваць свае сілы далей у гэтым накірунку... Зараз капітан міліцыі, выкладчык кафедры баявой і фізічнай падрыхтоўкі Акадэміі МУС РБ, якому ў гэтыя дні споўнілася 40 гадоў, мае на сваім рахунку роўна 100 нацыянальных і сусветных дасягненняў у такім незвычайна цяжкім і небяспечным «жанры». Дзе толькі ні выступаў беларускі волат (у тым жа клубе «Асілак» ён усталяваў 23 рэкорды). На сцэне сельскага клуба ў вёсцы пад Сянно, абласных цэнтрах рэспублікі, Расіі, Польшчы, Чэхіі. Вячаслаў з усіх дасягненняў выдзяляе 10 самых цяжкіх, на яго погляд, выступленняў.

Тут і ўздым штангі ў 150 кілаграмаў з падлогі (спосабам «станавая цяга») за хвіліну – 45 паўтарэнняў; перакульванне спіной наперад з гірай 32 кг у прамой левай руцэ (9 разоў); прысяданне ў поўны сед са штангай вагой у 110 кг, на плячах за 5 хвілінаў 55 разоў; канешне, уздымы бочкі з півам над галавой на прамыя рукі за 1, 6, 12, 24, 36 гадзінаў...

Мне давялося стаць сведкам амаль усіх яго выступленняў. І больш за ўсё ўражвае, не пабаюся гэтага слова, подзвіг, які зрабіў мой сябра ў мінскім Палацы воднага спорту, калі, седзячы ў шпагаце пад вадой на глыбіні 170 см, ён за 52 секунды выжаў гіру ў 32 кг правай рукой ажно 21 раз. Трэба было бачыць яго твар, вочы, калі Вячаслаў выйшаў з вады! Здавалася, яшчэ секунда-другая і маглі лопнуць сасуды. А тут яшчэ здарылася так, што не ўсе фотакарэспандэнты прыйшлі ў Палац у назначаны час, але кожны з іх хацеў мець унікальны здымак і таму, па прыбыцці, прасіў зноў і зноў ныраць пад ваду...

Відэасюжэт толькі адзіны раз, на жаль, быў паказаны на Беларускім тэлебачанні. Яго дубль мы адаслалі на РТР у праграму «Сам сабе рэжысёр» («Слабо?»), але ні слыху, ні дыху дагэтуль.

А калі знік з экранаў «Асілак» і яго вядучы звольніўся з БТ, усе фондавыя запісы былі размагнічаныя... А яшчэ гавораць, што рукапісы не гараць.

Можна вельмі доўга гаварыць аб кожным з рэкордаў нашага земляка. (Дарэчы, нарадзіўся ён у Бабруйску, першым трэнерам з'яўляўся Міхаіл Рабікоўскі). Аб яго здольнасцях, працавітасці, упартасці, фенаменальнай вынослівасці. Але вось што цікава: не было ніводнага выпадку, калі б беларускі Геракл не выканаў свайго абяцання пабіць ці ўстанавіць новы рэкорд. Калі сказаў, цярпеў ужо да апошняга. Нягледзячы ні на што!..

Зараз да сваіх гучных тытулаў ён прыбавіў яшчэ ганаровыя прозвішчы рэкардсмена Кнігі рэкордаў планеты, Чэхіі, расійскай Кнігі рэкордаў «Дзіва», па выніках 1996 і 1998 гадоў удастоены ганаровых тытулаў «Містэр Асілак Беларусі», два гады таму ўвайшоў у дзесятку лепшых спартсменаў краіны і быў прызнаны першым спартсменам Беларусі сярод неалімпійскіх відаў спорту.

Увесь свет ведае, што беларускі рэкардсмен двойчы сустракаў Новы год, спрабуючы ўстанавіць рэкорды, якія, упэўнены, не паб'е ніхто. Першы раз ён за суткі ўзняў кег з півам вагой у 40 кілаграмаў, зрабіўшы 3.200 уздымаў.

А новае тысячагоддзе мінчанін адзначыў яшчэ адным выдатным дасягненнем. На гэты раз уздымаў тую ж вагу ажно 36 гадзінаў, зрабіў гэта 4 тысячы 221 раз, што ў суме склала больш за 168 тон.

Апошні, 100, рэкорд Вячаслаў «узняў» у траўні і, на вялікі жаль, паставіў кропку. Дакладней кажучы, больш «тварыць свае шэдэўры» ён у Беларусі не будзе. Ёсць запрашэнні выступаць за мяжой. Але гэта тэма наступнай размовы.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Львоў шчыра чакае папу

*Візіт папы рымскага ва Украіну разлічаны на тры дні. За гэты час Іаан Павел ІІ мае намер наведаць святыя месцы і правесці некалькі набажэнстваў для вернікаў.*



У першы дзень, калі ў Львове будзе рымска-каталіцкая літургія, мяркуецца прыбыццё ў горад да 500 тысяч паломнікаў. У другі дзень будзе адбывацца грэка-каталіцкае набажэнства, на яго збяруцца ў горад да мільёна чалавек. У гэты ж дзень запланаваная сустрэча папы рымскага з моладдзю, на якой, па папярэдніх разліках, можна чакаць не меней як 200 тысяч чалавек. Бальшыню паломнікаў складуць мясцовыя жыхары ці насельніцтва Заходняй Украіны. У Львоў прыбудзе вялікая колькасць грэка-каталіцкіх паломнікаў з Польшчы і Славакіі. Прыедуць у Львоў і уніяцкія вернікі з Беларусі. Львоўскія ўлады, якія ўжо паўгода рыхтуюцца да прыёму папы, мусяць вырашаць мноства разнастайных праблемаў. Адна іх – зрабіць так, каб у невялікім Львове не сабралася адначасна ўся грамада паломнікаў. Бальшыня з іх прыедзе на аўтобусах разам са святарамі. Ім будуць забяспечаныя самыя неабходныя ўмовы: грамадскія туалеты, месцы для паркоўкі транспарту, медыцынскае абслугоўванне, забеспячэнне правапарадку. Начлег паломнікаў у горадзе не прадугледжваецца. Большага клопату вымагаюць журналісты. Іх наедзе болей за тры тысячы, гатэляў для іх не хопіць, бо ўсе гатэлі забраніраваныя для шаноўных гасцей. Таму журналісты, якія асвятляюць візіт папы, будуць расселеныя ў прыватным сектары.

Сёння ў Львове пражывае каля 800 тысяч насельніцтва. У часе сустрэчы з папам у горадзе акажацца за мільён чалавек. Галоўныя падзеі будуць праходзіць на ўскраінах Львова. Ужо распрацаваныя схемы руху папскага картэжа, а таксама адведзеныя маршруты пад рух транзітнага транспарту. Усе галоўныя вуліцы адрамантаваныя. Адна з львоўскіх праблемаў – пітная вада. Сёння ў многіх раёнах вада падаецца толькі шэсць гадзінаў на дзень. На час візіту папы прадугледжаная бесперабойная падача вады, што будзе святочным падарункам насельніцтву. У месцах набажэнстваў забеспячэнне пітной вадой бяруць на сябе камерцыйныя структуры.

У Львове папа Іаан Павел ІІ будзе жыць у палацы грэка-каталіцкага мітрапаліта на Свята-Юр'явай гары. Рэканструкцыя палаца ўжо праведзеная за грошы, якія выдзеліў украінскі ўрад. Але каб прыступіць да яе, былі прадастаўленыя кватэры людзям, якія пасяліліся там пасля вайны, стварыўшы агромністую камуналку. Кошт праведзенай рэканструкцыі склаў мільён дзвесце тысяч долараў.

Вялікую ўвагу львоўскія ўлады ўдзяляюць пытанням бяспекі. Былі спецыяльна абучаныя 5 тысяч валанцёраў для забеспячэння парадку ў месцах масавых набажэнстваў. Зараз працягваюць трэніроўкі аддзелы спецслужбаў, скіраваныя на папярэджанне тэрарыстычных актаў. У Львоў прыбудуць таксама аддзелы міліцыі з другіх рэгіёнаў Украіны. Папа едзе з місіяй міру, і візіт абяцаюць засцерагчы ад усялякіх інцыдэнтаў. Да якіх, прыкладам, заклікаюць гарачыя галовы сярод праваслаўных. На ўсходзе Украіны праваслаўныя вернікі з УПЦ Маскоўскай патрыярхіі правялі акцыі пратэсту супраць візіту папы, быў арганізаваны хросны ход праз усю краіну, які распачаўся ў Херсанесе і ахоўваецца казацкімі дружынамі. Але ў Львове такія акцыі немагчымыя.

**Вераніка ГАНСЕЎСКАЯ**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК



Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1722 Нумар падпісаны ў друк 14/06/2001 (15:00) Наклад – 9.590